© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020


# Ніва

ТЫДНЁВІК РАБОЧАГА ВЫДАВЕЦКАГА КААПЕРАТЫВА „ДРУК-КНІГА-РУХ“

№ 23 (1006) ГОД XX 8 ЧЭРВЕНЯ 1975 г. ЦАНА 60 гр.


Новыя вершы

## Балада пра попел

*Як прыцьмелае сонца,*
*Попелу шэрую шчопаць*
*Ля сэрца, у гімнасцёрцы*
*Нёс праз вайну ўсю хлопец.*

*І не кранулі міны*
*Ані ў якім акопе:*
*Попел пісьмаў дзяўчыны*
*Быў не проста попел.*

**Алег Лойка**






*— Люблю працаваць з вялікім калектывам людзей, а фальклор — гэта невычэрпная крыніца дасканалых рэчаў, — кажа Р. Місеюк, кіраўнік ГОК-у ў Кляшчэлях.*

Паставіць на сцэне нават прафесіянальнага тэатра з вопытнымі акцёрамі „Несцерку“ В. Вольскага ці „Машэку“ Е. Міровіча — напэўна нялёгкая справа.



*— Вы прыедзьце ў нашую вёску на вяселле ці хрысціны, вось дзе вы пачуеце хараство тутэйшых песень! — усклікае В. Маркевіч.*

А што ўжо казаць пра безліч цяжкасцей, якія мусіць пераадолець самадзейны калектыў, калі наважыўся здзейсніць гэта на скрыпучых ды хісткіх дошках вузенькай і нізенькай сцэнкі ў вясковай святліцы? Колькі энтузіязму, самаахвярнасці, працы мусіць ён прысвяціць, каб выявіць на сцэне ўсю палітру хараства беларускага народнага мастацтва, што заключана ў гэтых п'есах, і па дарозе не згубіць іх драматычнай асновы!

І вось я размаўляю з **Расціславам Місеюкам** — кіраўніком гміннага цэнтра культуры ў Кляшчэлях, кіраўніком і акцёрам самадзейнага тэатральнага калектыву БГКТ у Дабрывадзе.

— Паходжу я з Кляшчэляў, а пасля заканчэння тэатральнай студыі пры Цэнтральнай парадні самадзейнага мастацкага руху вярнуўся ў сваю родную гміну і працую тут з невялікім перапынкам ад 1962 года. Люблю сваю працу, бачу яе сэнс і знаходжу ў ёй асабістае задавальненне. Мая канцэпцыя культурна-асветнай працы — гэта разварушыць вясковае асяроддзе не адно мастацкай самадзейнасцю, але наогул такімі формамі дзеяння, якія ствараюць вясковай моладзі магчымасць выявіць сябе, паказаць, што яна можа. Люблю працаваць з вялікім калектывам людзей і сярод іх шукаю і знаходжу энтузіястаў, што потым становяцца маім асноўным актывам і надзейным памочнікам. Так яно і ёсць з самадзейнікамі з Дабрывады: вёска вялікая, у ёй многа моладзі і дарослыя таксама ахвочыя да ўдзелу ў культурнай дзейнасці.

— А рэпертуар? Чаму якраз „Несцерка“ ды „Машэка“?

У так званай вялікай беларускай літаратуры тояцца цудоўныя рэчы, якія можна „зрабіць“ і на самадзейнай сцэне. Паглыбляючы сваё знаёмства з беларускай літаратурай, адкрыў я ў В. Вольскага „Несцерку“ з аграмаднай порцыяй красачнага беларускага фальклору. Задумаўся і згануў, што вёска Дабрывада — гэта ж фальклорная неруш, матачнік мясцовай беларускай песні, народных звычаяў і абрадаў. Загарэўся я да пастаноўкі, і дабрывадзяне прыхільна ўспынялі маю задуму. Тры месяцы працавалі мы і з дарослымі і з моладдзю ў цесным мясцовым клубе. У п'есу я ўвёў мясцовыя вясельныя песні, гэта яшчэ больш наблізіла твор да выканаўцаў. У пастаноўцы ўдзельнічала звыш 20 асоб Удалася яна нам на славу. Ставілі мы яе чатыры разы, у тым ліку і на славутым турніры гарадоў Гайнаўка-Сямяцічы ў Беластоку. Для самой Дабрывады пастаноўка была самай вялікай падзеяй, бадай, нават у гісторыі гэтай

(Працяг на стар. 4)

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве“



### ЧАМУ ДЗЕЦІ НЕ ВУЧАЦЦА РОДНАЙ МОВЕ?

Вымова гэтых лікаў сумная: у 1970/71 навучальным годзе на Беласточчыне навучанне беларускай мове вялося ў 145 пачатковых школах і яе ўрокі наведвала 9 777 вучняў, а ў 1974/75 навучальным годзе лік гэтых школ зменшыўся да 79, а колькасць вучняў, што вывучаюць родную мову, складае ўсяго толькі 5 360 асоб.

Каб вобраз раптоўнага заняпаду навучання беларускай мовы ў нашых па-




чатковых школах быў больш празрысты і яскравы, варта прыгадаць, як ён выглядае ў паасобных паветах:

| Навуч. год | 1970/71 | | 1974/75 | | Зменш. на: | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | шк. | вуч. | шк. | вуч. | шк. | вуч. |
| Беластоцкі | 30 | 1 252 | 10 | 425 | 20 | 827 |
| Бельскі | 30 | 2 554 | 27 | 1 760 | 3 | 794 |
| Гайнаўскі | 65 | 4 926 | 35 | 2 845 | 30 | 2 081 |
| Сакольскі | 12 | 295 | 1 | 39 | 11 | 256 |
| Сямяціцкі | 8 | 750 | 6 | 291 | 2 | 459 |

У Дуброўскім павеце навучання беларускай мовы зусім няма.

Дзе ляжаць прычыны гэтага балючага стану?

Нехта можа сказаць: „Няма дастатковай колькасці адпаведна падрыхтаваных настаўніцкіх кадраў...“ Няпраўда, яны ёсць. Аб гэтым надта ж красамоўна сведчаць такія вось факты. За дваццаць год сваёй дзейнасці (1950-1970) Бельскі педагагічны ліцэй выпусціў 427 настаўнікаў, якія маюць адпаведную падрыхтоўку па беларускай мове і літаратуры, амаль столькі ж выпускнікоў беларускіх агульнаадукацыйных ліцэяў у Бельску і Гайнаўцы пасля здабыцця педагагічных кваліфікацый таксама пайшло працаваць у школы. Аддзяленне беларускай філалогіі Завочнай настаўніцкай студыі ў Беластоку за гады сваёй дзейнасці (1959-1965) падрыхтавала 91 дыпламаванага абсальвента, а кафедра беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта ад 1956 г. і да гэтай пары выпусціла 62 магістраў беларускай філалогіі. У сучасны момант пры гэтай жа кафедры на завочным аддзяленні займаецца каля 50 студэнтаў, пераважна настаўнікаў. Ужо каля дваццаці год рэгулярна з году ў год выязджаюць у Мінскі педагагічны інстытут імя А. М. Горкага на летні курс для павышэння кваліфікацый групы па 20 нашых настаўнікаў. Праводзіліся і ў Польшчы спецыяльныя курсы для настаўнікаў беларускай мовы. Значыць, настаўніцкія кадры ёсць!

„Можа недахоп падручнікаў для навучання ды кніжак у школьных бібліятэках гэтаму прычына?“ — запытае хтосьці. І не тут ляжыць прычына. Бо ў справе забеспячэння падручнікамі і літаратурай народная ўлада зрабіла зусім не менш, калі не болей, чым дзеля падрыхтоўкі настаўнікаў. Нягледзячы на тое, што кошт выдання аднаго падручніка па беларускай мове даходзіць да 150 тысяч злотых, для ўсіх класаў пачатковай школы выдадзены падручнікі. Больш таго, яны няспынна перавыдаюцца школьнымі і педагагічнымі выдавецтвамі, а пры гэтым у іх уводзяцца папраўкі і ўдасканаленні. Шмат падручнікаў і метадычных дапаможнікаў паступае на Беласточчыну з Беларускай ССР. Камплекты самых каштоўных і сучасных педагагічных навінак па навучанню беларускай мовы штогод атры-

(Працяг на стар 5)



„БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-75“

*Удзельніцы сёлетняга цэнтральнага агляду — Валя Шуста і Вера Міхалюк з Беластока. Фота Я. Цялушэцкага.*

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020




## Том каштоўных публікацый

У сакавіку бягучага года выйшаў пад рэдакцыяй вядомага даследчыка польска-ўсходнеславянскіх літаратурных узаемасувязей дац. д-ра В. Белаказовіча другі нумар часопіса „Studia Polono-Slavica Orientalia“, у якім чытачу прапануюцца не менш вартасныя публікацыі, чым у яго першым нумары (глядзі: „Ніва“ ад 20 кастрычніка 1974 г.).

Затрымаемся над матэрыяламі, якія кранаюць беларускую праблематыку.

У артыкуле Т. Шышкі *„Мікалай Ляскоў і Міцкевіч“* знаходзім толькі мімалётны дотык беларуска-польскіх спраў, калі аўтар прыгадвае пра падарожжа М. Ляскова ў 1862 годзе ў Вільню, Гродна, Беласток, Белавежу і Пінск і дыскусію з В. Каратынскім пра творчасць А. Міцкевіча. Цікава, што Белавежская пушча зрабіла аграмаднае ўражанне на рускім пісьменніку, і гэта знайшло адлюстраванне ў яго публікацыях.

Значна глыбей у польска-беларускія ўзаемасувязі ўваходзіць публікацыя У. Вільчынскага *„Дайна „Крук“ у польскай літаратуры і ўсходнеславянскіх літаратурах“*. У ёй аўтар, ідучы метадалагічным следам славутага Ю. Кшыжаноўскага („Paralele“), прасочвае дзівосны шлях літоўскай народнай песні „Varnas“, што паўстала недзе ў XVI стагоддзі, у польскую літаратуру, яе вандроўку па ўкраінскім і рускім фальклоры, а таксама аналізуе заснаваны на гэтай песні верш Л. Кандратовіча „Крук“ і яго пераклады на рускую, украінскую і беларускую мовы. Прыгадаўшы, што „Крука“ Л. Кандратовіча ў 1908-1909 г.г. на беларускую мову пераклаў Я. Купала, пад загалоўкам „Груган“, У. Вільчынскі сцвярджае: *„Груган“ з'яўляецца цудоўнай перадачай верша Сыракомлі на беларускую мову і з пункту гледжання мастацкай дасканаласці не ўступае арыгіналу“*. І ўсё ж неабходна заўважыць, што аўтар публікацыі не паклапаціўся прааналізаваць сугучнасці гэтай літоўскай народнай песні з беларускімі народнымі рэкруцкімі і салдацкімі песнямі. Ужо нават павярхоўнае параўнанне аднолькавых вобразаў з літоўскай дайны і нашых народных песень, як, напрыклад, бацькі, плачучага па загінуўшым на вайне сыне, грачучага чорнага ворана на забітым салдаце-сіраціне, перададзеным залатым пярсцёнку ад яго для каханай, плачы-ляманты жонкі ці дзяўчыны на вестку аб смерці каханага. Усё гэта паказвае на блізкасць дайны беларускаму фальклору, і, хто ведае, ці сярод яго нязмернага багацця не крыецца і наш беларускі народны „Груган“.

З. Скібінская-Харыла ў артыкуле *„Аб перакладах „Пана Тадэуша“ на беларускую мову“* на падставе крытычнага агляду мастацкай адэкватнасці перакладаў вядомай эпапеі А. Міцкевіча беларускімі пісьменнікамі В. Дуніным-Марцінкевічам, А. Ельскім, Б. Тарашкевічам, П. Бітэлем, М. Танкам і С. Дзяргаем прыходзіць да вываду, што *„дагэтуль перакладзеныя фрагменты „Пана Тадэуша“... на беларускую мову прадстаўляюць вялікую каштоўнасць з пункту гледжання гісторыі мовы і мастацтва“*.

З артыкула С. Яновіча *„Некалькі заўваг пра беларускую літаратуру і яе распаўсюджанне ў Народнай Польшчы“* на ўвагу заслугоўвае сцверджанне аўтара, што *„у Польшчы назіраецца мізэрнае знаёмства беларускай літаратуры“* і што ў гэтай галіне ляжыць непачаты край працы для перакладчыкаў дзеля азнаямлення польскага чытача хоць бы з самымі выдатнымі здабыткамі літаратурнай творчасці іх суседзяў з-за мяжы. Не пазбаўлены цікавасці і заўвагі С. Яновіча пра творчасць беларускіх пісьменнікаў, якія гуртуюцца ў літаратурным аб'яднанні „Белавежа“ пры ГП БГКТ. Артыкул напісан з пафасам, уласцівым чалавеку, які ўсёй душой перажывае тое, аб чым гаворыць. І хіба не гэтым толькі можна апраўдаць вялікія прабелы ў дакументаванні фактамі выказаных скораспелых вывадаў і тэзісаў, а таксама тую далёкую ад сапраўднай навуковасці, бездапаможную блытаніну ў перыядызацыі пасляваеннай беларускай літаратуры, што з натугай намагаецца даць чытачу С. Яновіч. І яшчэ адна прыкрая справа. У артыкуле С. Яновіча скромнасць і не начавала нават: большасць зносак пад ім — гэта спасылкі на самога сябе або на тых, хто пісаў аб С. Яновічу. Прагнаму славы аўтару хочацца прыгадаць беларускую народную прыказку: „Парожняя бочка звініць, а поўная маўчыць“.

Але гэта толькі дробязі. У цэласці другі нумар „Studia Polono-Slavica Orientalia“ — гэта том адкрыўчых і цікавых публікацый.

**Мікалай Гайдук**

### *Наш каляндар*

## Ігнат Дварчанін

Належаў да вядучых дзеячоў заходнебеларускага прагрэсіўнага руху.

Нарадзіўся **Ігнат Сымонавіч Дварчанін** 8 чэрвеня 1895 г. у сялянскай сям'і ў вёсцы Погіры Слонімскага павету, Гродзенскай губерні. Выключныя здольнасці і працавітасць дазволілі яму закончыць сярэднюю школу. З 1912 па 1915 г.г. настаўнічае ў вясковай школцы ў Хмяльніцы Слонімскага павету, а потым яго мабілізуюць, і ён два гады служыць у царскай арміі. У бурлівыя гады пасля Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі доўга і натужліва шукае правільнага шляху да рэвалюцыйнага дзеяння. У 1919-1920 гадах засноўвае і кіруе культурна-асветным беларускім гуртком у мястэчку Дзятлава, за што яго арыштоўваюць тагачасныя польскія ўлады і заключаюць у турму ў Беластоку. Пасля выязджае ў Чэхаславакію і там у Пражскім універсітэце займаецца на філасофскім факультэце. У 1925 г. заканчвае універсітэт і са званнем доктара філасофіі вяртаецца на радзіму. Адразу ўключаецца ў культурна-асветную дзейнасць у цэнтры заходнебеларускага руху ў Вільні: працуе сакратаром Беларускага выдавецкага таварыства, удзельнічае ў арганізацыйных працах Беларускай сялянска-рабочай Грамады, апрацоўвае і выдае ў 1927 г. „Хрэстаматыю новай беларускай літаратуры (ад 1905 года)“.



Пасля разгрому БСР Грамады па ініцыятыве ЦК Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі ў снежні 1927 г. паўстае легальная рэвалюцыйна-вызваленчая арганізацыя „Змаганне“, якая працягвала традыцыі Грамады. І. Дварчанін быў выбраны намеснікам старшыні „Змагання“, а ў 1928 г. — паслом у сейм ад гэтай жа арганізацыі. Ён прымае актыўны ўдзел у працы беларускага рабоча-сялянскага пасольскага клуба „Змаганне“, часта выступае ў сейме з прамовамі, у якіх абараняе інтарэсы працоўнага люду Заходняй Беларусі, выступае супраць рэакцыйнай унутранай і знешняй палітыкі ўраду Пілсудскага, ахвярна працуе над пашырэннем гурткоў і ўмацоўваннем павятовых камітэтаў „Змагання“, змяшчае шэраг артыкулаў у газетах, што выдавала гэтая арганізацыя.

За рэвалюцыйную дзейнасць у 1930 г. І. Дварчаніна засуджваюць на 8 год цяжкага турэмнага заключэння. У турме ў Равічы І. Дварчанін прабывае сярод выдатных дзеячоў Камуністычнай партыі Польшчы, і там у 1930 г. ён уступае ў яе рады.

У 1932 г. у выніку абмену палітычнымі вязнямі паміж СССР і Польшчай І. Дварчанін пераязджае ў Мінск. Некалькі год працуе ў Акадэміі навук БССР. Памірае 8 снежня 1937 г. (іс)

### *Наша галерэя*



*А. Рабцаў, Усяж. Каталкі (дрэва, разьба, выпальванне).*

### З НАГОДЫ XXX-ГОДДЗЯ ВОП

Знаходзімся на пагранічнай заставе, якая з'яўляецца адной з тых, што ўстаноўлены для аховы нашай усходняй дзяржаўнай мяжы. Прымае нас камандзір гэтай заставы, капітан **Казімір Кільянчук.** У мірнай абстаноўцы, рассеўшыся ў выгодных, мяккіх крэслах, за кавай і чаем слухаем расказаў камандзіра Беластоцкага аддзялення войск аховы пагранічча, палкоўніка **Лёнгіна Васілевіча** і яго намесніка па палітычных справах, падпалкоўніка **Станіслава Кубяка. 10 чэрвеня польскія пагранічнікі адзначаюць сваё свята.** У гэтым годзе асабліва ўрачыста, бо ўжо 30 раз. І з гэтай менавіта нагоды адбываецца наша сустрэча на пагранічнай заставе.

Усходняя граніца Польшчы была ўстаноўлена 16 жніўня 1945 г. Яна стала граніцай сяброўства і мірнага супрацоўніцтва. Аднак і тут пагранічнікі ніколі не мелі спакою, асабліва ў першыя гады пасля вайны. У лютым 1947 г. плютановы **Баляслаў Шума** і салдат **Войцех Внук** атрымалі загад, каб правесці разведку ў наваколлі Сухаволі і Янава. У вёсцы Пёнткі трапілі ў рукі бандытаў, якія завялі іх у лес і, пасля страшэнных здзекванняў, кінулі абодвух у агонь. У гадах 1946-50 загінулі на пасту 42 салдаты беластоцкага аддзялення ВОП.

Палкоўнік Васілевіч гаворыць аб выкарыстанні навейшай тэхнікі для аховы граніцы, а яго намеснік асабліва высока цэніць дапамогу мясцовага насельніцтва. Узамен пагранічнікі шмат у чым дапамагаюць жыхарам прыгранічнай зоны. У вёсцы Новадзель на Сакольшчыне ў 1970 г. пабудавалі яны ўласнымі сіламі вялікую школу. Дапамагалі пры пабудове многіх другіх школ, між іншым і ў Шымках, якая 5 чэрвеня 1975 г. атрымала званне **„Школа імя салдатаў Беластоцкага аддзялення ВОП“.** Кожны год пагранічнікі наладжваюць у вёсках 150 — 200 бясплатных кінасеансаў, там, дзе ніхто не бачыць жывога акцёра, выступаюць артысты пагранічнікаў, іх лекары нясуць дапамогу мясцоваму насельніцтву, салдаты-пагранічнікі кожны год добраахвольна аддаюць сваю кроў для патрэб медыцыны.

Ды ўсяго не пералічыць. Аб гэтых штодзённых сувязях пагранічнікаў з насельніцтвам гаворыць таксама камандзір заставы. Ды ён асабіста з'яўляецца найлепшым прыкладам гэтага супрацоўніцтва. У сваім асяроддзі з'яўляецца адным з найбольш ахвярных актывістаў. Нясе сваю службу тут ужо 16 год.




Раптам з трэскам адчыняюцца дзверы і дзяжурны — плютановы дакладвае, што ад савецкіх пагранічнікаў паступіла паведамленне аб парушэнні дзяржаўнай граніцы. Гляджу на прысутных афіцэраў. Не, жартаў няма. Камандзір узнімае трывогу на заставе. Па тэлефону і па радыё ляцяць кароткія загады. Маланкава ажывае ўся сістэма аховы, як найспраўнейшы механізм, і кожнае яго звяно выконвае сваю, добра завучаную задачу. Мы таксама імчымся на граніцу, каб пазнаёміцца са слядамі, якія пакінуў злачынца на кантрольнай паласе. Там нас ужо чакаюць савецкія пагранічнікі: падпалкоўнік, маёр і сержант. Вітаюць нас сардэчна. Між польскімі і савецкімі пагранічнікамі, асабліва з Гродна і Брэста, здаўна завялося сяброўскае супрацоўніцтва. Праводзяць яны супольныя нарады, абменьваюцца вопытам, наладжваюць спартыўныя гульні і канцэрты мастацкіх калектываў. Цяпер, аднак, між імі ідзе дзелавая гутарка. Як мага хутчэй злавіць злачынцу. Да акцыі ўключаюцца жыхары навакольных вёсак, армоўцы і гарцэры, якія інфармуюць, што бачылі нейкага чужога чалавека, апісваюць яго выгляд. Праз гадзіну ў лесе, непадалёк ад шашы, раздаецца каманда: *„Стой! Рукі ўверх! Тут пагранічная служба“.*

У сувязі з гэтым палкоўнік Васілевіч інфармуе:

— Нашай усходняй граніцай цікавяцца розныя няпрошаныя „госці“. Найчасцей прыкідваюцца яны „турыстамі“ і, раз'язджаючы на сваіх хуткаходных лімузінах, сочаць за тым, што дзеецца ў прыгранічнай зоне. Ім вельмі хочацца ведаць, якія існуюць магчымасці пранікнуць праз нашу граніцу ў Савецкі Саюз і назад. Дык хай яны ведаюць, што ўсіх злачынцаў, паўтараю: **усіх,** якія гэтага спрабавалі, мы тут жа выкрылі і злавілі.

**Віктар Рудчык**



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020




## Нашаніўская пара

### АЛЕСЬ ГАРУН — ЧАСТКА VIII

**Грамадская лірыка.** Прадаўжаючы разважанні аб грамадскай лірыцы Гаруна, нельга не сказаць аб яго двух вершах: „Багаты вы“ і „Юдам“. Вершы гэтыя з'яўляюцца непасрэдным зваротам да можных гэтага свету, да багацеяў. Паэт уступае ў непасрэдную палеміку з людзьмі, якіх лічыць сваімі асабістымі ворагамі і ворагамі працоўнага люду. Праўда, дыялаг мае тут аднабаковы характар, бо выказваецца ў ім толькі паэт, таму можна было б назваць гэтыя вершы палымяным выступленнем паэта-абвінаваўцы.

У вершы „Багаты вы“ Гарун аж сем разоў, звяртаючыся да паноў, паўтарае фразу „багаты вы“. Багатыя паны грашыма, зямлёю, сілай, традыцыямі, навукай, злом, але бедныя сардэчнасцю, бедныя працавітасцю, бедныя добрай воляй.

Верш цікавы па форме. Складаецца ён з васьмірадковых строф. Амаль палова радкоў складаецца толькі з двух слоў. Многія радкі — гэта адно слова. Такая спецыфічная структура верша вымагала ад паэта выключнага майстэрства. Паўторы, скарачэнні, аратарскія прыёмы надаюць вершу дынаміку і эмацыянальна ўздзейнічаюць на чытача. Трэба, аднак, заўважыць, што верш гэты пазбаўлены ўнутраных структур. Няма ў ім падтэкстаў, няма ў ім сімвалаў, няма ў ім метафар. Мае ён характар публіцыстычны і газетны. Уся яго сіла ў шчырасці пачуцця.

**Верш „Юдам“** можна смела паставіць на першым месцы ва ўсёй грамадскай лірыцы Гаруна. І па форме, і па зместу верш з'яўляецца палымянай аратарскай прамовай. Прамовай, насычанай абурэннем, болем, пратэстам. Верш „Юдам“ гэта твор рэалістычны. Калі, аднак, узяць пад увагу, што адзінокі паэт кідае ў твар пануючым гэтага свету горкую праўду, што як легендарны волат узнімаецца на барацьбу з тымі, у чыіх руках грошы і зброя, дык мусім сказаць, што ў гэтым вершы не мала рамантычнага. Кожны радок гэтага верша мае пяруновую вымову. Статыстыка яго ясная, аргументы пераконваючыя, мэты лагічныя. У вершы „Юдам“ няма сумненняў, няма хістанняў. Напоўнены ён дэтэрмінацыяй, рашучасцю, бескампраміснасцю. Верш гэты не просіць, ён патрабуе. Можам назваць яго крыкам душы, одай нянавісці, скіраванай у адрас тых, хто апранаецца ў вопратку сябра народа, будучы яго ворагам.

Да вас, паны, што голасна крычэце
Аб прыязні сваёй да „беднага народу“,
Што раіце паліссяму: „Маўчэце,
Нядоўга вам дадзём багацце, волю,
згоду“, —
Да вас мой гэты верш і словы ўсе
благія,
Бо словам вы адны, а справамі
— другія.
„Багацце вам“... Няма нам вашай веры!
Бо ў той жа год ліхі, што ў полі не
ўрадзіла,
Галоднаму на прокарм хлеба меры
Аднэй вы не далі і злаялі няміла.
Калі для нас жадаеце багацтва,
Нашто з бяздольнага здзіраеце
апратку?
Нашто ж тады вы плодзіце жабрацтва,
Дамы пустошачы без ліку, без астатку?
„Мы волю вам“... Пракляцце вам і з ёю!
Чаму ад волі вашай мы стагнаць
павінны?
Яна — ланцуг над нашаю зямлёю,
Астрог на наш народ спакойны
і бязвінны.

Загаловак верша „Юдам“ дасканала ілюструе ўвесь змест твора. Па сутнасці ў кожнай страфе праводзіцца думка аб няшчырасці і крывадушлівасці пануючых класаў. Усе ідэі, усе думкі, канцэпцыі і дэкларацыі гэтых класаў маюць на мэце не інтарэсы працоўных, а імкнуцца да ўзбагачэння багатых. Грошы, золата, як гаворыць аўтар, мамона — гэта адзіны бог, якому шчыра моляцца пануючыя і багатыя.

Верш „Юдам“ гэта бадай што найбольш радыкальны твор у паэзіі Гаруна. Зрэшты, і ва ўсёй нашаніўскай літаратуры не многа знойдзем вершаў, у якіх праблема класавай нянавісці была б пастаўлена так востра, як гэта бачым у Гаруна. Як відаць, Гарун у сваёй паэзіі не толькі плакаў, не толькі наракаў. Умеў ён узняць голас пратэсту ў барацьбе за акрэсленыя ідэалы.

## НА ПРАДПРЫЕМСТВЕ СЯРОД ТАРФЯНІШЧАЎ



*Аддана працуе Сцяпан Храноўскі. Ён з'яўляецца адным з тых, што пачынаюць прадукцыйны працэс на прадпрыемстве.*

У наваколлі Новай Волі здаўна выкарыстоўваліся залежы высакаякаснай гліны. А вось ужо амаль дваццаць год існуе тут прадпрыемства тарфяной прамысловасці „Лес“ у Імшары (якая прыгожая назва), што непадалёку Новай Волі і па-суседску з вёскай Ляўшы. На месцы, дзе зімою ў кустах спакойна гойсалі сабе зайцы, а ўлетку палохала непраходная твань.

Цяпер тутэйшае прадпрыемства дае штогод звышпланавую прадукцыю — у сярэднім 12 тысяч тон торфу, тарфяных субстратаў і лекавай баравіны найлепшай кансістэнцыі, якую выкарыстоўваюць лячэбныя ўстановы ў Цехацінку і Беластоку. Агульная вартасць іх — 20 мільёнаў злотых. Працуе тут у сярэднім на працягу цэлага года (у летнім сезоне і больш) 160 асоб перш за ўсё з навакольных, але нават і даволі далёкіх вёсак і ваколіц, пазбаўленых якой-кольвек прамысловасці. Працуюць тут жыхары з суседняга Гайнаўскага павету. Заробкі высокія. Прадпрыемства дае прадукцыю ў розныя краіны свету — у Югаславію, Аўстрыю, Францыю, Італію. Там выкарыстоўваюць наш торф асабліва пад гароднiну і самыя рэдкія кветкі.

Яшчэ значна лепшых эфектаў дабілася б тарфяное прадпрыемства, калі б тэрмінова выконваліся ўсе працы, звязаныя з адвадненнем тарфянішчаў. Дрэнажаванне належыць прадпрыемству водных меліярацый у Беластоку. Прыдаліся б вельмі фоліевыя мяшкі, якія на нашым рынку з'яўляюцца дэфіцытным таварам. Прадпрыемству іх не хапае, а ПГР-ы не праяўляюць асаблівых клопатаў, каб збіраць фоліевыя мяшкі пасля выкарыстання штучных угнаенняў.

Тарфяное прадпрыемства „Лес“ у Імшары ўзяло пад сваю пастаянную апеку міхалоўскі ліцэй. Дапамагае ў пабудове жыллёвага дома для настаўнікаў, у рамонце школы, у школьнай гаспадарцы. Уласнымі сродкамі транспарту возіць будаўнічыя матэрыялы, вугаль. Моладзь і настаўнікі гэтай адзінай у гэтым кутку павету сярэдняй школы высока цэняць гэтую дапамогу.

Цікавыя перспектывы мае перад сабою прадпрыемства ў Імшары. У бліжэйшыя гады пачне яно эксплуатацыю торфу на аб'екце Рабінаўка, на якім будуць выкарыстоўвацца спецыяльныя машыны, а ў тым ліку тарфарэзы з Савецкага Саюза. Лепшая механізацыя будзе ўведзена ў старых цэхах. Дырэкцыя многа зрабіла дзеля паляпшэння сацыяльна-бытавых умоў рабочага калектыву. Будзе адкрыта сталовая на 100 месц. Прадбачана таксама большая колькасць краязнаўчых экскурсій для ўсіх працоўных.

Варта адзначыць яшчэ актыўны ўдзел усіх работнікаў імшараўскага прадпрыемства ў грамадскіх чынах. У мінулым годзе кожны адпрацаваў па два дні пры прадукцыі, а таксама пры пабудове дарогі непадалёку вёсак Патока і Цыванюкі. Сёлета ў гонар VII з'езду партыі, рабочы калектыў будзе таксама выконваць двухдзённы грамадскі чын пры прадукцыі і яшчэ пры пабудове мясцовых дарог і пачакальні на аўтобусным прыпынку ў Ляўшах, з якога карыстаюцца ўсе рабочыя.

**Я. Цялушэцкі**
Фота аўтара



*Галіна Леўша, Галена Грыка і Яўгенія Каліноўская працуюць ударна. Дзякуючы ім прадпрыемства выпускае звышпланавую прадукцыю.*

(Працяг са стар. 1)




мясціны. А ў бягучым годзе запрапанаваў дабрывадскім самадзейнікам „Машэку“ Е. Міровіча. Зноў амаль дваццаць асоб працавала каля 4 месяцаў і з надта добрым вынікам — на цэнтральным аглядзе ў Бельску мы занялі першае месца! З гэтай п'есай мы ўжо выступілі ў Дабрывадзе і Кляшчэлях, збіраемся ехаць у Арэшкава, Дубіны і, магчыма, у іншыя мясцовасці. І, ведаеце, я не памыліўся адносна незвычайных здольнасцей дабрывадскіх самадзейнікаў. У „Несцерцы“ дасканала паказала сябе ў ролі Мальвіны **Ніна Маркевіч,** а ў „Машэку“ — выканаўца галоўнай ролі **Пётр Маркевіч** і ролі Дораша — **Уладзімір Клімовіч.**

— Нябласа выпала і роля баярына ў вашым выкананні. Але вернемся да цяжкасцей у працы з самадзейнікамі.

— Няма чаго таіць: цяжкасці аграмадныя. Прадстаўце сабе пакойчык вясковага клуба, дзе адбываліся рэпетыцыі і куды штохвіліну ўваходзілі людзі, каб купіць папяросы, мыла, выпіць ліманад, а то і проста паглядзець ды панасміхацца з аднасяльчан-акцёраў. Затым, з людзей, якім цалкам няведамы правілы ігры на сцэне, як жа ж нялёгка зрабіць акцёраў, хоць і маюць да гэтага шчырыя жаданні.

У Дабрывадзе старшыня мясцовага гуртка ЗСМВ і актыўны ўдзельнік тэатральнага калектыву **Ніна Маркевіч** кажа:

— Пастаноўкі „Несцеркі“ і „Машэкі“ — гэта нашае самае вялікае дасягненне, ганарымся мы імі, і нават моладзь з суседніх вёсак нам зайздросціць. Але наш дваццаціасабовы гурток не забываецца і пра іншыя справы. У мінулым годзе ў „зялёную нядзелю“ мы пасадзілі каля 1 500 дрэўцаў паабапал вясковай вуліцы, абсадзілі імі наш стадыён, працавалі пры пасадцы лесу каля Кляшчэляў. Цяпер будзем парадкаваць наваколле клуба і прымем удзел у рамонце дарогі, што вядзе з вёскі да станцыі Кляшчэлі. Варта дадаць, што большасць нашых членаў працуе на чыгунцы, на прадпрыемствах Гайнаўкі, я сама, напрыклад, працую на чыгунцы...



*— Мы і самі не верылі, што здолеем такія прыгожыя рэчы ставіць на сцэне, — прызнаецца старшыня дабрывадскага гуртка ЗСМВ Н. Маркевіч.*

**Вера Маркевіч** — старэйшая жанчына, дачка якой у гэтым годзе здавала экзамен на атэстат сталасці, заўважае:

— От жа ж і файная была гэтая пастаноўка „Несцерка“. Я разам з А. Ліпінскай, А. Зіневіч, К. Яўдосюк, А. Клімовіч і А. Маркевіч таксама прымала ў ёй удзел. Спявалі мы мясцовыя песні: „Зачынаецца-розвіваецца...“, „Ой мамынька-вішня...“ і іншыя. Мы ж усе старэйшыя бабы, а як люба было на сцэне! Аж зноў хочацца. Тут у нас песень браць не перабраць. Вось па вялікадні на праваднай спявалі на вуліцы „огулькі“, а цяпер штовечар чуваць „вяснянкі“, потым пойдуць „косьбяные“...

**Пётр Маркевіч** толькі што прыехаў з Гайнаўкі са школы, і я яго застаў пры полудні:

— У „Несцерцы“ мне давялося выконваць ролю Юрася, а ў „Машэку“ — самога Машэкі. Мяне захапілі гэтыя п'есы, іх народнасць. Ведаеце, вось на экзамене на атэстат сталасці, які я здаваў сёлета ў Механічным тэхнікуме ў Гайнаўцы, па польскай мове была тэма „Дыскусія над нацыянальнай справай у рамантычных паэмах і драмах“. Пісаў я якраз яе, бо міцкевічаўскія „Дзяды“ і міровічаўскі „Машэка“ выраслі на той самай беларускай глебе. І экзамен прайшоў добра. Цяпер збіраюся паступаць у Беластоцкі палітэхнічны інстытут, але і там не хачу пакідаць працы ў самадзейным руху.

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

## ВЕР-НЕ-ВЕР ГРАБ

Сёння прачытайце пра людзей, якія **нарадзіліся паміж 4-13 чэрвеня і 2-11 снежня.**

Прыгожае дрэва, але не надта прывабнае. У маладыя гады часта бывае вельмі прыгожае, але з часам траціць прыгажосць.

Чалавек, які падобны да граба, адносіцца да ўсяго крыху паблажліва. Любіць эстэтыку. Яго ўвагу больш, чым змест, паглынае форма. У прыватным жыцці цікавіць яго перш за ўсё уласная дасканаласць.

Вельмі любіць, каб усе яго слухаліся, любіць дысцыпліну. Хоча, каб усе падкрэслівалі бясконца яго добрыя бакі, марыць аб узнагародах, хоча заўсёды здзіўляць усіх.

Найбольш адпавядае яму падпарадкаванне ўжо правераным прынцыпам, і таму не часта праяўляе ён ініцыятыву; пры розных жыццёвых нагодах выступае ў яго страх перад тым, каб не зрабіць памылку.

Мае затое пачуццё абавязку, пачуццё справядлівасці.

Не любіць адступаць ад знаных яму дарог, неахвотна сходзіць з раз выбранага шляху. Да новых ідэй адносіцца недаверліва, але з'яўляецца адначасова ворагам прынцыпа „усё роўна".

У каханні ён вельмі чэсны. Пачуццё гэта для яго справа паважная. Ён прывабны і мілы партнёр. Але калі жыццё загадае яму выбраць паміж каханнем і абавязкам, напэўна выбярэ абавязак.

**Астрон**

## Куток практычных ведаў




### ШТО-НЕБУДЗЬ БЕЗ МЯСА

#### РУСКІЯ ПІРАЖКІ

На цеста трэба ўзяць 40 дэкаў мукі, ваду; на фарш — 30 дэкаў сыра, 3 вараныя бульбіны, 1 цыбулю, 1 лыжку тлушчу, соль, перац.

Прапусціць праз машынку альбо расціснуць вілкай сыр з бульбай, дадаць па смаку солі і перцу, а таксама дробна нарэзаную, падсмажаную на тлушчы цыбулю. Рабіць сярэдняй велічыні піражкі з цеста, укладаючы ў іх фарш. Варыць у пасоленай вадзе.

Падаваць піражкі гарачыя, палітыя скваркамі. Добра запіваць іх кіслым малаком.

#### СМАЖАНЫ СЫР

На 40 дэкаў сыра ўзяць 1 жаўток, адну лыжку масла, адну лыжку кмену, альбо дзве лыжачкі зялёнага ўкропу, соль.

Сыр раскрышыць, пакінуць разложаны на місцы ў цёплым месцы і крыху пасаліць. Хай так пастаіць 2-3 дні. Калі сыр пачне цягнуцца, палажыць на патэльню масла, растапіць яго, дадаць сыр, і, мяшаючы, награваць так доўга, пакуль не будзе гладкая, аднастайная маса. Зняць з агню, дадаць кмен ці укроп, сыры жаўток, добра размяшаць. Сыр астудзіць, выліўшы яго ў місачку.

Падаваць з хлебам.

#### АЛАДКІ З ГРАЧАНАЙ МУКІ З СЫРАМ

На 30 дэкаў грачанай мукі ўзяць 15 дэкаў пшанічнай мукі, соль, 30 дэкаў тварагу, 1 яйцо, 1 шклянку смятаны.

Грачаную муку заліць шклянкай гарачай вады, размяшаць. Дадаць, астудзіўшы, пшанічную муку і соль, замясіць цеста, як на піражкі. Сыр расцерці з яйцом, пасаліць. Можна да сыра дадаць зялёны ўкроп. З цеста зрабіць валік. Адразаць нажом тонеенькія аладкі, змазваць сырам, складаць па два разам, крыху заціскаючы краі. Смажыць на гарачым тлушчы.

Падаваць гарачыя, паліўшы смятанай. Да смятаны можна дадаць дробна нарэзаную зялёную цыбульку.

#### КНЭДЛІ З СЫРА

На 40 дэкаў сыра ўзяць 1 дэка манай кашы, 4 яечкі, 3 лыжкі малака, 2 лыжкі мукі, 1 лыжку масла ці маргарыну, соль, тлушч.

Манную кашу заліць малаком. Сыр прапусціць праз машынку. Расцерці жаўткі з тлушчам, дадаць сыр, манную кашу, вымяшаць. У канцы дадаць пену бялкоў. Рабіць невялікія кнэдлі з масы, мачаць іх у муку, варыць у пасоленай вадзе.

Падаваць гарачыя, паліўшы растопленым маслам і смятанай.

**Гаспадыня**

ТОЛЬКІ СКНАРА І ЛЯНІВЫ НЕ ВЫПІСЫВАЕ „НІВЫ"





**Дарагое „Сэрцайка"!**

Выйшла я замуж у 18 год. Неўзабаве нарадзілася дачка, а потым яшчэ дзве дзяўчынкі. Абавязкаў, клопатаў хоць адбаўляй. Сама маладая, нявопытная, муж таксама не многа старэйшы. Параіць, памагчы не было каму, бо жывем мы далёка, над морам, а бацькі на Бельшчыне. Муж працаваў адзін, фінансава цяжкавата было, дык пачаў пасля працы дарабляць, а праз гэта і пазней дахаты вяртацца. Я цэлымі днямі адна з дзяцьмі сядзела. Сумна, розныя думкі ў галаву прыходзілі, а тут яшчэ тая-сяя суседка: што ты вось адна, муж пэўна сабе іншую ўжо знайшоў, калі так позна вяртаецца. Дык і пачаліся ў нас сваркі. Муж урэшце пакінуў мяне з дзяцьмі і выехаў у далёкі горад. Ішлі гады, сама гадавала я дзяцей. Муж не паказваўся. Даходзілі слухі, што з іншай жыве. Аліменты плаціў рэгулярна. Прайшло ўжо дванаццаць год.

На пачатку гэтага года муж прыехаў да нас. Потым яшчэ быў некалькі разоў. Гаварыў, што хацеў бы вярнуцца, заўсёды быць з намі, забыўшы пра ўсё мінулае. І мо дайшлі б мы да паразумення, бо і дзеці задаволены, але на перашкодзе тое, што я ўжо даўнавата пазнаёмілася з Міхасём. Ён разведзены, жонку і дзяцей пакінуў. Ён мне падабаецца. Прывыкла ўжо да яго. Прапануе жаніцца. Ён і да іншых заляцаецца, ды чула, што не з адной ужо жаніцца браўся. Часта п'яны прыходзіць, але кахаю я яго і не ведаю, што рабіць, ці зыйсціся мне назад з мужам, ці за Міхася выйсці?

**Галіна**

Галіна! Нялёгка табе ў жыцці было, дык цяпер разважна да справы падыходзь. Калі звяжашся з Міхасём, напэўна новых клопатаў набярэшся. Няпэўны ён чалавек. Сям'ю пакінуў, ды, як кажаш, не толькі да цябе, але і да іншых жанчын заляцаецца, чаго ж тады спадзявацца. А да былога мужа, у асноўным, засцярог не маеш. А ён жа і бацька дзецям. А ў тым, што жыццё ваша няўдала склалася, не толькі яго віна. Былі вы абое вельмі маладыя і нявопытныя, далучыліся суседкі — „дарадчыцы". І ўсё гэта раскідала ваша сямейнае гняздо, якое вось цяпер, мне здаецца, можна наладзіць.

**„Сэрцайка"**

## § Кансультацыя ЮРЫСТА

ПЫТАННЕ: Н. з'яўляецца інвалідам II групы і на сельскай гаспадарцы не працуе. Пасля смерці бацькі ён заключыў умову, на аснове якой прадаў свой удзел у спадчыне М., які мае сваю гаспадарку і з'яўляецца селянінам. Ці М., які не з'яўляецца наследнікам, павінен браць удзел у падзеле спадчыны і ці можа атрымаць гаспадарку, або яе спадчыну?

АДКАЗ: Кожны наследнік можа прадаць свой удзел у спадчыне. Набыўца ў гэткім выпадку павінен браць удзел у падзеле спадчыны. У асноўным яму прыслугоўваюць такія самыя правы, як і наследніку, у якога ён набыў удзел. Таму, калі б Н. не меў права атрымаць у спадчыне сельскай гаспадаркі, то і набыўца яго ўдзелу ў спадчыне не меў бы гэткага права. У нашым выпадку Н. з'яўляецца інвалідам і таму мае права атрымаць у спадчыне сельскую гаспадарку. Паколькі ён як інвалід не здольны да гаспадарання, тым больш, што дагэтуль сельскай гаспадаркай не займаўся, то гаспадарка яму не магла б быць прыдзелена і ён атрымаў бы грашовыя сплаты свайго ўдзелу. Аднак, набыўца яго ўдзелу з'яўляецца здольным да кіравання гаспадаркай селянінам і таму няма перашкод, каб ён атрымаў гаспадарку, а астатнім наследнікам ён сплаціў бы іх часткі.

## Этнаграфічнае акенца



*Колішні свіран у вёсцы Альша (Дуброўшчына).*
*Фота М. Гайдука.*




Баец пачаў задыхацца. Грудзі распірала ад нястачы паветра, — здавалася, вось-вось хрусне горла, і Валоку апанаваў страх, што вось так недарэчна даў загубіць сябе. З роспачнай нечалавечай сілай ён ірвануўся, як мог упёрся ў падлогу каленямі, напружыўся і дзвюма рукамі моцна крутнуў убок адну, найбольш учэпістую руку ворага. Каўнер байца затрашчаў; зноў нешта глуха стукнулася аб падлогу, вораг засоп, размашыста шоргнулі па бетоннай падлозе ягоныя боты.

Ад некалькіх роспачных рыўкоў палепшала; Валока вызваліў шыю, і, здаецца, пачаў асільваць немца. Тады ў пачуцці шыбанула злосць і недзе ў свядомасці мільгануў люты намер забіць адразу ж, — ён набавіў сілы. Баец цяпер зразумеў, што яму можа дапамагчы тут. Валтузячыся і сапучы, ён намацаў нагамі сцяну, зноў упёрся ў яе і пхнуўся ўсім целам на ворага. Той зноў апынуўся ўнізе — Валока нешта замычаў ад зларадства і, усё больш заходзячыся ад лютасці, урэшце дабраўся да варожае шыі.

— І-і-і, э-э! — мычаў немец, і Валока адчуваў, што перамагае. Вораг прыкметна збавіў імпэт і толькі абараняўся, хапаючыся за разлютаваныя Валокавы рукі і шалёна тузаючыся. Валоку, аднак, вельмі замінала сумка з дыскамі, якая перакруцілася на баку, трапіла пад немца і почапкай трымала яго, як на прывязі. Пасля, змагаючыся, Валока зноў страціў апору, у валтузні недзе прапала сцяна; ногі шкрэблі па слізкай падлозе, але баец з усяе сілы трымаўся наверсе і не выпускаў варожае шыі.

Немец роспачна затрапятаў, заенчыў, захрыпеў, ірвануў аберуч ягоныя рукі, ляпнуўся аб бетон галавой, напружыўся, кінуўся ўбок выгнутым целам. Толькі Валока не выпускаў яго, ямчэй прыналёг плячом, ухапіў пяцярнёй горла і ціскануў.

Але ў той момант здарылася штосьці страшнае.

Грымотны пярун ударыў у вушы, здрыганулася і рухнула ў нейкае бяздонне падлога, чорнае падзямелле громам і грукатам абрушылася на чалавека. На галаву, спіну, плечы рынула цэгла, зямля, пясок, задушыла нейкім смуродам, балюча ўдарыла ў голаў, навалілася і прыціснула... Валока інстынктыўна хіснуўся ад немца, ускінуў над сабою рукі, затуліўся, бездапаможна падставіўшы абвалу потную, пабітую спіну.

Грымоцце, аднак, хутка спынілася, сціхнуў абвал, але ўсё Валокава цела скавалі цесната і цяжар. Нельга было ні выдыхнуць, ні варухнуцца, і толькі ў свядомасці бліскала кароценькая і радасная думка: „Жывы". Але не было паветра, і ён задыхнуўся ад пяску і нейкага смярдзючага ўдушша. Адчуўшы, што гіне, Валока рвануўся з тае магілы; нешта туга, але падатліва рассунулася над ім, ён шпарка задыхаў і расплюшчыў запарушаныя пяском балючыя вочы.

2.

Дзіва, як ён уцалеў.

Навокал ужо не было ранейшай цемры, разам з ёю знік недзе і халаднаваты прастор склепа. Было душна, і скрозь грувасціўся цагляны ды бетонны груз. Спачатку Валоку здалося, што выбухам ён адкінуты кудысьці з таго месца, дзе біўся з немцам, але ўтледзеўшыся ў прыцемкі, пазнаў абсыпаныя шчэбенем уцалелыя крутыя прыступкі, з якіх ён зваліўся сюды. Іх было толькі шэсць; вышэй разламаная бетонная пліта, як крыга ў паводку, касабочыла са столі і, упершыся рабром у лесвіцу, загараджвала выхад. З другога боку, наўкось ад Валокі, урэзалася канцом у завалены цэглай дол шырокая двухтаўровая бэлька. Яна была сагнута, — пэўна ад выбуху, і калі б упала на якіх паўметра бліжэй, дык наўрад ці давялося б цяпер Валоку бачыць яе.

Павярнуўшыся, баец вызваліў ад завалля рукі, прыўзняўся, але ногі былі яшчэ моцна нечым прыціснуты. Ці ён аглух, ці сапраўды было зусім ціха, толькі ў вушах нешта вісклівa, працягла і балюча звінела. Пакрысе ён павяр-



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# ТРЫБУНА чытачоў

## Жывёлагадоўля — справа важная

Не ўсе яшчэ рэзервы ў жывёлагадоўлі выкарыстаны ў нашых гаспадарках. Так было і ў Галадах. Было, але ўжо няма. Былі, як і ў іншых вёсках, вясковыя пасніні. Кожны гаспадар гадаваў пару каровак і выганяў іх на выган. Але, вядома, карова не магла наесціся на гэтым „бубне". А і зімой цяжка было з пашай. Затое цяпер!

О, цяпер зусім іншая справа! Выган зааралі і падзялілі паміж сялянамі. Растуць там цяпер высакаякасныя травы. Растуць добра, бо сяляне не шкадуюць угнаенняў. За два гады стала ў два разы больш кароў. Кожны гаспадар пакідае маладняк для гадоўлі. Гэта тым карысней, што можна свае каровы крыжаваць з мяснымі пародамі, а маладое быдла карміць.

Носяць цяпер таксама больш малака ў малачарню, а будуць насіць яшчэ больш, калі падрастуць цялічкі пароды „Нцб", якіх пакуплялі многія сяляне.

Вось так на працягу двух год многа ў Галадах змянілася на лепшае.

**Валянцін Анапюк**




### ВЭСЭЛІМСЯ

*Там од вёскі ветёр дуе,*
*Там вэсэле ўжэ готуют.*
*Столы сталі устаўляты,*
*Молодах сватоў склікаты.*

*Зачалося:*
*— усё найлепшэ,*
*за здароўе молодзі*
*і старого*
*— молодого.*

*Пошла брага по столам.*
*Мнуого трэба сватам,*
*Коб упоіты так*
*— што нэ рукой і нэ ногой.*

*Сваты нашы здороўяглі —*
*Нэ ўпіваются од брагі.*
*Сталі молодых просыты,*
*Коб трохі прысолодыты.*

*Солодылы молодыя,*
*А сваты тож нэ дурныя —*
*Зачалі дыўчат душыты,*
*Коб собе прысолодыты.*

*У нас ужэ такі народ,*
*Што прывык вэсэлітыся*
*І шторок так жэнытыся.*

**Пятро Кірызюк**

нуўся на бок і паспрабаваў устаць. Ногі, здаецца, уцалелі, рукі таксама, толькі адна вельмі балела ў плячы. Ссыпаючы з сябе пыл і абломкі, ён прыўзняўся на руках, выцягнуў з-пад друзу адну нагу, пасля другую і сеў. І тады з грудзей яго прарваўся сударгавы нястрымны кашаль. Валока аж захліпаўся ад удушша, грудзі разрываліся; пыл і пясок забілі, мусіць усе лёгкія. Уздрыгваючы ўсім целам, некалькі пакутных хвілін чалавек кашляў і адплёўваўся і пасля, калі палегчала, зноў агледзеўся наўкола.

Так, яго добра заваліла тут. Заваліла лесвіцу і склеп, уцалеў толькі змрочны закутак за прыступкамі, да якіх метры са два ля выхада. Той бок склепа, насупраць ад увахода, быў зусім забіты цэглай, бетоннымі глыбамі; столь над ім скасабочылася, разламаўшыся на кавалкі, і з чорных шчылін дзе-нідзе тырчала ржавая арматура. З адной такой шчыліны ў паўзмрок сутарэння цадзіўся знадворку тоненькі мільготкі праменьчык. У ім, роячыся, густа бліскалі пылінкі, і ён ледзьве прабіваўся да долу, дзе клаў цагляны зломак прыцьмелую плямку святла. Ад гэтай яго кволай спробы прабіць змрок і было тут трошкі відна.

(Працяг будзе.)

## Добраахвотная пажарная каманда ў Грэдалях

Людзі пазнаюць вясну па песні жаваранка. А Грэдалі пазнаюць, што прыйшла вясна, калі камендант мясцовай пажарнай каманды ў святочным мундзіры праводзіць агляд гаспадарскіх панадворкаў. Прыстойны Мікалай Лукашук са сваімі хлопцамі падказвае гаспадарам, якія патрэбны супрацьпажарныя прылады. Людзям гэта падабаецца.

Трэба сказаць, што і хлопцаў сваіх — пажарнікаў, камендант вучыць добрай працы, дысцыпліне. У спаборніцтвах пажарнікі з Грэдалёў выпярэджваюць па занятках іншыя каманды.

У штодзённым жыцці Мікалай Лукашук з'яўляецца перадавым гаспадаром. Спецыялізуецца ў жывёлагадоўлі.

**Восень**

## Такі гаспадар!

У вёсцы Малявічы Горныя на Сакольшчыне жыве старэнькі гаспадар — Аляксандр Муха. Гаспадарыць ён на 9 гектарах зямлі. Гэта ўзорны гаспадар, дае добры прыклад іншым. Працуе ён са сваёй старэнькай жонкай. Гадуюць 11 галоў быдла і больш 80 штук авечак. Кантрактуюць 2 гектары бульбы.

Ужо б і пара адпачываць старым, але Аляксандр кажа: „Пакуль змагу сваю зямлю рабіць і гаспадарку трымаць, на пенсію не пайду. Яшчэ я даю даход дзяржаве і сабе маю".

І цікава. Свіней гаспадар не гадуе, бо ён магаметанскай веры. Затое многа садзіць бульбы і сее кармавых раслін.

**Т. К.**

## Дабрывадская моладзь

У Дабрывадзе дзейнічае некалькі маладзёжных арганізацый: Саюз сацыялістычнай вясковай моладзі, ЛЗС, мастацкі калектыў. Ёсць тут таксама клуб „Рух", у якім збіраецца моладзь і старэйшыя жыхары вёскі, каб правесці вольны час.

У дабрывадскім клубе чыстата і парадак. Сочыць за гэтым гаспадар клуба, сяброўка Радзёнава, а памагае ёй рада клуба. Гэты васьміасабовы калектыў, выбраны сярод членаў ЗСМВ, з'яўляецца каардынатарам усіх мерапрыемстваў у сваёй святліцы. А трэба адзначыць, што дабрывадская моладзь добра працуе. Сведчаць аб гэтым многія дыпломы, якія ўпрыгожваюць сцены мясцовага клуба. Ёсць іх больш як 20 штук. 14 атрымалі члены гуртка ЛЗС, апошнія належаць членам ЗСМВ і мастацкаму калектыву.

Саюз сацыялістычнай вясковай моладзі арганізаваўся ў 1966 г. Спачатку не меў вялікіх поспехаў у працы. Часта змянялася праўленне гуртка. Не было канкрэтнага напрамку дзейнасці. Змянілася ў дабрывадскім гуртку ЗСМВ ад мінулага года. Моладзь цяпер ахвотна выконвае грамадскую і культурна-асветную працу. Старшынёй гуртка ЗСМВ у Дабрывадзе з'яўляецца Ніна Маркевіч.

Апрача культурнай дзейнасці, дабрывадская моладзь цікавіцца спортам. Усе аматары яго належаць да гуртка ЛЗС, старшынёй якога з'яўляецца Пятро Маркевіч. Гурток ЛЗС налічвае 45 членаў. Быў арганізаваны даволі даўно. Некалькі год праходзіў крызіс. Росквіт пачаўся ў 1972 г. Ужо ў 1973 г. ЛЗС-аўцы з Дабрывады заваявалі на гмінная алімпіядзе ў Кляшчэлях І месца і атрымалі кубак начальніка гміны. Гэта ж самае паўтараецца і ў наступным годзе. Апрача таго, спартсмены з дабрывадскага ЛЗС-у заваявалі ІІ месца ў павеце па футболу і ІІІ месца на павятовай алімпіядзе ў Гайнаўцы.

**Мацейка**

## Дарма ўцешыліся

Да дубіцкага спажывецкага кіёску ў палове мая даставілі 1000 бутэлек піва з разлеўні ў Кляшчэлях. І што гэта было за піва! Ахвотнікі падумалі найперш, што яно нейкае заграгічнае, бо зеленаватае і нешта плавала ў ім, як у кітайскай гарэлцы. Аказалася, што проста піва было сапсаванае. Каму ж яго піць?

**М. Панфілюк**

## Конкурс у Гайнаўцы

У гайнаўскім доме культуры „Ляснік" адбыліся элімінацыі конкурса пад загалоўкам „Дружба-супрацоўніцтва-братэрства". Пытанні датычыліся сацыяльна-эканамічных і культурных суадносін паміж савецкім і польскім народамі. У конкурсе ўдзельнічала моладзь сярэдніх школ. Конкурс складаўся з дзвюх частак: пісьмовай і вуснай. Пасля пісьмовых прац найлепшымі з найлепшых аказаліся вучні школьнага гуртка Таварыства польска-савецкай дружбы Гайнаўскага беларускага ліцэя, апекуном якога з'яўляецца прафесар Яўгіння Буйноўская. Першае месца пасля двух дадатковых розыгрышаў заваявалі Васіль Дамброўскі, другое — Уладзімір Зенюк, трэцяе — Юра Заброцкі.

**В. О.**
**Гайнаўскі беларускі ліцэй**

## Дзе купіць?

Жыхар Дубяжына С.Я. паехаў у Бельск Падляшскі купіць „апыляч" да бараньбы з пустазеллем. Загадчык склада сельскагаспадарчых машын і прыладаў сказаў, што такіх рэчаў у іх няма. „Былі, праўда, — гаворыць загадчык склада, — аднак людзі раскупілі. Цяпер трэба чакаць да кастрычніка, таму што бельскі склад выкарыстаў сваё нарміраванае забеспячэнне".

Дзіўна, каму будзе патрэбны „апыляч" восенню ці зімою? А мо гэта толькі нядбайнасць адказных працаўнікоў бельскага ГС-у? Гавораць, быццам у Беластоку можна купіць усе сельскагаспадарчыя прылады. А мо трэба падумаць і аб іншых мясцовасцях і забяспечыць сялян у патрэбныя сельскагаспадарчыя прылады. Людзі чакаюць на тавар у пору.

**Мацейка**

**Грамадская ініцыятыва**

## Дзе нашы сходы?

На шэсць пасёлкавых камітэтаў у горадзе Гайнаўцы, толькі адзін мае „кватэру" — месца, дзе можна сабрацца, пагутарыць і параіцца, як лепш працаваць. Іншыя камітэты карыстаюцца святліцамі розных устаноў.

Пасёлкавы камітэт нумар 4 усе свае сходы праводзіць ужо другі год у святліцы стражы пажарнай. За той час не здарылася, каб нам не далі святліцы на сход. А прытым яна прымае нас чыста прыбраная і памытая. За такія адносіны да пасёлкавага камітэта шчырае дзякуй каменданту стражы пажарнай у Гайнаўцы Яўгену Пятровічу. Мы верым, што і ў далейшым так будзе.

## Наша моладзь у пасёлку

У пасёлку 4 у Гайнаўцы ёсць многа моладзі, якая блукаецца ў вольны час, бо не мае чым заняцца. Ведаючы пра гэта, праўленне пасёлкавага камітэта падало начальніку горада прапанову, каб на вуліцы Пралетарскай (насупраць заразнай бальніцы) зрабіць для моладзі спартыўную пляцоўку. На гэтым месцы было пуста і глуха.

Начальнік горада інж. Юры Сагойдак прапанову прыняў і на былым сметніку робіцца пры дапамозе самога насельніцтва пляцоўка для гульняў. На месяц чэрвень работа мае быць закончана, і моладзь увойдзе на пляцоўку.

Старшыня пасёлкавага камітэта нумар 4 і сакратар партарганізацыі пасёлка Вінцук Дзедзюль арганізавалі сход, на якім быў устаноўлены фізкультурны гурток. Старшынёй яго стаў Рышард Чарняеўскі. Маладыя з ахвотай узяліся за работу. Склікалі сход, апрацавалі план працы, ёсць запал і ініцыятыва. А ў сваіх мерапрыемствах, трэба пра гэта маладым помніць, яны заўсёды атрымаюць дапамогу і падтрымку ад нас — старэйшых.

**Э. Вайсковіч**

ЧЫТАЙЦЕ і РАСПАЎСЮДЖВАЙЦЕ „Ніву"!

## Прапанова сябрам — карэспандэнтам

Прапаную адвесці ў „Ніве" крыху месца на „куток цікавых людзей". Усе чытачы і асабліва карэспандэнты маюць права прысылаць у гэты куток фатаграфіі і кароткія даведкі аб цікавых людзях. Вось пасылаю вам першы такі матэрыял. Гэтыя дзяўчаты на здымках усе, як адна, завуцца Тамары, толькі прозвішчы розныя. Я хацела б пакінуць ім на памяць нешта трывалае, але немагчыма зрабіць гэтага без цябе, дарагая рэдакцыя.



*Тамара Беляўская.*

Вучацца ў апошнім класе Бельскага эканамічнага ліцэя. Яны не толькі добрыя вучаніцы, але таксама і спартсменкі, удзельнікі розных спаборніцтваў. У 1973/74 годзе яны заваявалі другое месца ў ваяводскіх спаборніцтвах па сяткоўцы, а ў 1974/75 г. яны ўжо ўдзельнікі клуба „Сполэм", занялі пятае месца ў „А" класе. Нядаўна дзяўчаты прынялі ўдзел у павятовай спартакіядзе на кубак „Штандару маладых". Яны ўстанавілі рэкорд у скоках у вышыню, у даль і ў іншых галінах лёгкай атлетыкі.



*Тамара Панькоўская.*

Тамары ахвотна памагаюць сяброўкам, якія слаба вучацца. І хаця дзяўчаты маюць многа школьных абавязкаў, яны заўсёды вясёлыя і служаць парадай у любы момант.



*Тамара Сачко.*

**Жэня Аўсенюк,**
Бельскі эканамічны ліцэй,
клас IV ц

**У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ**

### ГМІНА ОРЛЯ ДБАЕ ПРА ДАРОГІ

**Адказвае:**

**Urząd Gminy w Orli.**

W odpowiedzi na notatkę prasową opublikowaną w „Niwie" Nr 9(992) z dnia 2 marca 1975 r., Urząd Gminy w Orli uprzejmie informuje, że budowa chodników we wsi Krywiatycze rozpoczęta w ubiegłym roku została zakończona w dniu 3.V.1975 r.

Brak środków pieniężnych oraz trudności z zakupem płytek chodnikowych były powodem przedłużającej się budowy chodników.

Natomiast odnośnie drogi Orla do Krywiatycz informujemy, iż jest to droga o nawierzchni żwirowej. Została wybudowana w latach 1972—73. Nawierzchnia żwirowa nie jest nawierzchnią twardą i w związku z tym na skutek opadów atmosferycznych powstają lokalne dołki, które obwód drogowy PZDL w Orli natychmiast usuwa poprzez profilowanie równarką lub włokiem. Wspomniana droga jest bardzo często konserwowana i nie dopuszcza się do występowania głębokich wyboi.

Ponadto nadmienia się, że w/w droga jest jedną z najlepszych na terenie Gminy.

**Naczelnik Gminy**
**Piotr Chmielewski**

### ВУЛІЦА Ў СЕМЯНОЎЦЫ

**Адказвае:**

**Urząd Gminy w Narewce.**

Po zapoznaniu się z Waszym pismem i notatką w sprawie niezakończonej budowy ulicy w Siemianówce, Urząd Gminy w Narewce wyjaśnia, iż trzy lata temu na przejazdach we wsi Siemianówka była położona trylinka. Ponieważ w roku ubiegłym występowały i obecnym występują trudności z wykonawstwem płytek trylinki, a mieszkańcy wsi nie wyrażają zgody na wybrukowanie wjazdów, dlatego też sprawa powyższa w roku obecnym nie może być zakończona. Jeśli mieszkańcy wsi Siemianówka wyrażą zgodę na wybrukowanie wjazdów i udzielą pomocy w czynie społecznym przy przebudowie, wówczas będzie możliwość ułożenia płytek chodnikowych w Siemianówce.

**Naczelnik Gminy**
**inż. W. Hackiewicz**

„Niwa" — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch". Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

## ЧУЛЫ ЧАЛАВЕК

Купіў я сабе чаравікі. Пачаў іх насіць, аж яны ціснуць. Што рабіць? Адзін ратунак — ісці ў майстэрню.

Хоць часу і бракавала, але ўсё ж заскочыў да шаўцоў.

— Скажыце, рамонт „з нагі" вы робіце? — пацікавіўся я.

— Робім. А што там у цябе? — бесцырымонна спытаў адзін з іх.

Не звяртаючы ўвагі на своеасаблівую форму звароту, я расказаў пра сваё гора. Пасадзіў мяне шавец у крэсла, загадаў скінуць чаравікі. Потым доўга іх разглядаў, задаволена чмокаў губамі.

— Во гэта падэшвы! Такому тавару зносу не будзе. А перады! Гэта ж золата, а не перады.

Мінут з дзесяць ён расхвальваў мае чаравікі. Мне аж няёмка стала, што прыйшоў прасіць нейкай рады, каб можна было насіць такія выдатныя чаравікі.

Затым шавец пацікавіўся, што канкрэтна патрабуецца ад яго.

Я паўтарыў тое, што раней гаварыў, і папрасіў хутчэй зрабіць, бо няма часу.

— О, час і здароўе — гэта якраз тое, чаго нам вечна не хапае. Але ты, хлопец, стаіш перад пачаткам свайго доўгага веку, дык і спяшацца няма куды.

Ён раптам змоўк, засяроджыўшы позірк на чаравіках.

— Значыць, ціснуць? — перапытаў ён.

— Мг-г-гу, — пацвердзіў я.

— Хе, і хто б мог падумаць? Глянь на іх — і век не скажаш, што яны ціснуць.

— Форма... — нясмела паспрабаваў давесці я шаўцу.

— Трэба ведаць, які змест укладваеш у гэту форму, — па-філасофску заначыў ён. — Але мы можам падагнаць форму пад змест. Тут і работы тае — кот наплакаў. Гэта для нас, чалавеча, да прымітывізму, проста: бяром капыл, трах-бабах — і ўсё гатова.

Ён прыплюшчыў вока, паглядзеў на чаравікі.

— А дзе найболей ціснуць? — пацікавіўся.

— Перады вузкаватыя.

Шавец патануў у глыбокім роздуме над далейшым лёсам маіх чаравікаў.

— Ну, вядома, іх трэба разбіваць, — нечакана ўпэўнена пацвердзіў ён сваю думку. — Толькі, бачыш, капылоў у нас няма. Ужо з год, як няма. То давай хоць абцасікі падаб'ём, каб час не марна патраціў.

**В. Ляшчынскі**



— Калісь і цяпер.

### КАБ НЕ ПРЫПЯКАЛА СОНЦА

— Дзіўны ты чалавек, Кастусь: на вуліцы спякота — 24 градусы, а ты целагрэйку апрануў замест таго, каб у адной майцы хадзіць.

— Скажы гэта каму-небудзь іншаму. І праз целагрэйку сонца прыпякае, а праз майку — тым больш...

# НІЎКА



— Ён, здаецца, забыў, што мы наймалі яго статыстам.

### АДКАЗ ПА СУТНАСЦІ

Кавальскі доўга хадзіў па залах парыжскага музея і дужа стаміўся. Сеў на першае крэсла, якое заўважыў. Служачы музея падышоў да яго і ветліва папрасіў:

— Устаньце, калі ласка: вы седзіце ў крэсла Людовіка XIV.

— Ну і што? — адказаў Кавальскі. — Калі ён прыйдзе, я ўстану.

### ЧЫЯ ПРАЎДА?

— Калі б нашы мужчыны былі разумнымі, то разводаў было б менш, — сказала адна жанчына.

— Сумняваюся, — адказаў адзін з мужчын. — Калі б мужчыны сапраўды былі больш разумнымі, то яны не спяшаліся б жаніцца...

### БУДЗЕМ КВІТЫ

— Паўлік! Ці не абяцаў ты мне, што будзеш добра вучыцца?

— Абяцаў, тата!

— А хіба я не абяцаў адлупцаваць цябе, калі ты не будзеш добра вучыцца?

— Абяцаў, тата! Але ж я свайго слова не стрымаў, то і ты не стрымай.

## СВАРКА

*Два Ваські — два каты,*
*Старыі маладыі,*
*На складзе збожжа вартавалі.*
*І так удвух мышэй ганялі,*
*Што хутка знік апошні злодзей,*
*Бо працавалі ў дружбе, згодзе.*

*Ды неяк мяўкнуў малады:*
*— Я больш цябе лаўлю мышэй...*
*Стары ў адказ:*
*— Ну-ну, цішэй!*
*Паўгода, як прыйшоў сюды,*
*А задзіраеш нос?!*
*Малакасос!..*

*І з гэтай вось пары,*
*Як толькі ўдвух збяруцца,*
*То сварацца, то б'юцца,*
*У ход пусціўшы кіпцюры.*
*Вядуць штодзённа звадкі...*
*А мышы зноў ядуць зярняткі.*

**Міхась Гарнак**

### ВОСЬ ДЫК ЗНАХОДКА!

Кастусь кажа сябру:

— Як прыемна мець справу з сумленным чалавекам.

— З якой нагоды гэта прыйшло табе ў галаву?

— На мінулым тыдні я знайшоў сабаку. Хацеў прадаць, але ніхто і залатоўкі за яго не даваў. Тады я вярнуў сабаку гаспадару, і ён даў мне пяцьдзесят злотых узнагароды.



...Ён ніколі не адчуваў сябе лішнім. Не адчуваў — і ўсё!

...Ён крочыў з песняй па чужым жыцці.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Марылі Бойка з Аўгустова змяшчаем песню:

## GWIAZDA DNIA

słowa: Marek Dutkiewicz
muzyka: Andrzej Korzyński
śpiewa: Grupa Dwa plus Jeden

O najjaśniejsza z jasnych gwiazd
prowadź nas w białą dal,
wyciągnij nas spod kołdry mgieł
w rześki dzień, złoty jak dźwięk.

Tak wiele dni, tak wiele dróg...
Pokaż nam dłonią spławny nurt
prowadź nas na szlak
— nadziei szlak
gwiazdo dnia
gwiazdo dnia.

Podaruj nam bezpieczny ląd
przystań daj naszym snom,
niechaj wędrówki naszej prom
zdąża tam, gdzie woła dom.

Tak wiele dróg, tak wiele dni...
Znów zapal nam promienny znicz
ukaż nam ten trakt
— nadziei trakt
gwiazdo dnia.

З французскага

### РАДАСЛОЎНАЕ ДРЭВА

Замежны журналіст, размаўляючы з Аляксандрам Дзюма, пацікавіўся паходжаннем раманіста.

— Вы мулат?

— Але, — адказаў Дзюма, які ніколі не хаваўся ад свайго паходжання.

— А ваш бацька?

— Таксама мулат.

— А ваш дзед? — не пераставаў той.

— Негр.

— Дазвольце яшчэ запытаць, — дапытваўся іншаземец, — а кім быў ваш прадзед?

— Малпай! — са злосцю адказаў Дзюма.



## МІНІВЕРШЫ

### МЕНЮ ДЫРЭКТАРА РЭСТАРАНА

*З афіцыянтамі піў каву з малаком,*
*З сваім начальствам каву з каньяком,*
*А сам з сабою (вось жа дзівачок!)*
*Адзін ніштымны жлукціў каньячок.*

**Алесь Махнач**

— Наш намеснік дырэктара заўсёды быў такім ветлівым і спакойным, а то яго быццам падмянілі...
— Дык ён жа цяпер выконвае абавязкі дырэктара.

## КУРЁЗЫ

### СУВЯЗЬ ЧАСОЎ

Калі турысты наведваюць старажытную царкву паблізу ад Вероны, яны здзіўляюцца, як выдатна захавалася мазаічная падлога. Служыцель царквы тлумачыць прычыну яе надзвычайнага даўгалецця: „Вернікі гэтай абшчыны ўжо шмат вякоў не маюць абутку".

### „ЭКСПЕРТЫ" ПА САМАЗАБОЙСТВАХ

У мінулым годзе ў Англіі зарэгістравана сто тысяч спроб самагубства. Газета „Гардыян" лічыць, што кожны год колькасць такіх выпадкаў павялічваецца на 10 працэнтаў. Большасць тых, хто спрабуе скончыць самагубствам, — старыя, бяздомныя, беспрацоўныя.

Псіхіятр Бруэр з Бірмінгемскага універсітэта піша, што цяпер усё часцей зброяй самазабойства становяцца моцныя дзеючыя медыцынскія сродкі — наркотыкі, снатворнае, болетаталяючае. Расце колькасць самазабойстваў сярод урачоў. Бруэр называе іх „экспертамі" — амаль усе спробы медыкаў паканчыць з сабою заканчваюцца смяротным зыходам. „Яны вельмі добра ведаюць, якую дозу атруты трэба прыняць, — піша ён. — Ніхто з урачоў не хоча, каб пра яго сказалі: „Нават пакончыць з сабою не змог".

### САЎДЗЕЛЬНІКІ

„У сувязі з заявай аб крадзяжы на перасоўнай сталовай № 5 пры ўдзеле раённага аддзела ўнутраных спраў вынікі наступныя".

(З акта рэвізіі)




Жонка хоча бачыць у свайго мужа ўсе станоўчыя якасці чужых мужоў.